СВАБОДА
1 сакавіка 1995 г.
№9
Кошт 200 рублёў

# Прэзыдэнт незадаволены тэлебачаньнем, але хоча трымаць яго пры сабе

- Аказваецца, некаторыя журналісты дазваляюць сабе "за государственные деньги критиковать государственную политику"
- Лукашэнка аберагаў Наіну Ельцыну ад "правакацыяў"
- "Бацька" любіць чытаць скаргі і глядзець тэлевізар у ложку

**Пра гэта прэзыдэнт паведаміў на сустрэчы з работнікамі Беларускай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, якая адбылася ў пятніцу 24 лютага.**

Сустрэча праходзіла ў тэлестудыі, куды прапусьцілі толькі загадзя вызначаных супрацоўнікаў. Пасьля выступаў старшыні тэлерадыёкампаніі Р.Кісяля, міністра сувязі Ул.Ганчарэнкі і некалькіх чалавек з залі (у асноўным са скаргамі і просьбамі) на трыбуну выйшаў прэзыдэнт. Ягоны выступ доўжыўся амаль тры гадзіны.

Спачатку Лукашэнка зьдзівіў прысутных паведамленьнем, што *"Вопреки слухам, моя охрана даже на выезде не превышает 3—4 человек"*. Тымчасам усе бачылі, што яго суправаджаюць каля 10 целаахоўнікаў. Акрамя таго, безьліч міліцыянтаў яшчэ з раніцы ачапілі ўвесь будынак тэлевізіі. Магчыма таму Лукашэнка параіў і ўсім іншым нічога не баяцца. Як лічыць прэзыдэнт, ня трэба баяцца нават Канстытуцыйнага суда, які ў хуткім часе будзе разглядаць пытаньне аб правамоцнасьці падпарадкаваньня тэлерадыёкампаніі адміністрацыі прэзыдэнта. Акрамя таго, Лукашэнка з гонарам заявіў, што, якім бы ні было рашэньне суда, "*я вас всё равно не отдам*".

Тым ня менш цяперашняе тэлебачаньне, якое кіраўнік дзяржавы (па ўласным прызнаньні) глядзіць цэлы дзень, яго не задавальняе. На думку прэзыдэнта, некаторыя журналісты ўсё яшчэ дазваляюць сабе *"за государственные деньги критиковать государственную политику"*. Аднак на пытаньне з залі: "Чаму работнікі кампаніі, якая ўваходзіць у прэзыдэнцкую структуру, ня маюць статусу дзяржаўных служачых і адпаведных заробкаў і ільготаў?" — Лукашэнка адказаў, што тут яшчэ трэба "*крепко подумать*".

Падчас выступу Лукашэнка закрануў і тэму візыту ў Беларусь прэзыдэнта Ельцына. Аляксандар Рыгоравіч паведаміў шмат цікавага. Напрыклад, што Барыс Мікалаевіч — *"человек богатырского здоровья и настоящей русской доброты"*. Высьветлілася, што прэзыдэнты падчас сваіх гутарак гарэлкі не пілі, але тым ня менш добра пасябравалі. Лукашэнка быў вельмі абураны некаторымі выданьнямі, якія "неправильно" асьвятлялі візыт Ельцына. У прыватнасьці, ён згадаў невялікую публікацыю ў "Народнай газеце" пад загалоўкам "Наину Иосифовну очаровала... Ольга Брониславовна".

Лукашэнка згадаў таксама нашую газэту. Прэзыдэнт заявіў, што СВАБОДА *"готовилась сделать провокационный снимок"* жонкі Ельцына ў часе наведаньня музэя. Але *"соответствующие службы узнали об этом, и нам пришлось принять меры, чтобы оградить эту женщину"*. Пры гэтым Лукашэнка зазначыў: *"Вы не думайте, что мы подслушивали телефонные разговоры редактора Германчука"*. (СВАБОДА сапраўды зьбіралася сфатаграфаваць Наіну Ельцыну, але наш фотакарэспандэнт сутыкнуўся з пэўнымі праблемамі. Лукашэнка, наколькі нам вядома, лічыць практычна ўсе здымкі ў нашай газэце "провокационными"

На гэтай сустрэчы прэзыдэнт назваў таксама сапраўдную прычыну звальненьня з пасады галоўнага рэдактара газэты "Рэспубліка". Як выявілася, Лукашэнку не спадабалася пісьмо аднаго чытача, якое надрукавала газэта. Таму ён даручыў "компетентным органам" праверыць ліст. Тыя высьветлілі, што аўтару ліста "заплацілі БНФаўцы". Паводле словаў Лукашэнкі, апазыцыя мае мяхі грошай — *"они с Запада получают бешеные деньги"*.

Прысутныя даведаліся і пра тое, што праз свайго сына Віктара, які вучыцца ва ўнівэрсытэце, прэзыдэнт атрымлівае мноства скаргаў. Сын прыносіць лісты, *"когда я в постели смотрю телевизор"*. Гаворачы пра скаргі, Лукашэнка паведаміў сэнсацыйную навіну: прэзыдэнт атрымаў *"мешки писем от родителей, недовольных белорусизацией обучения"*, і цяпер ён асабіста будзе вырашаць, ці даваць дазвол на перавод той ці іншай школы на беларускую мову навучаньня. Прысутны на сустрэчы галоўны рэдактар "Народнай газеты" І.Сярэдзіч паспрабаваў зьвярнуць увагу Лукашэнкі на недарэчнасьць і незаконнасьць такога рашэньня, аднак у адказ атрымаў ад прэзыдэнта рэкамэндацыю — *"сидеть на месте"*.

Напрыканцы сустрэчы адзін малады тэлежурналіст прапанаваў Лукашэнку зрабіць рэпартаж пра адзін з працоўных дзён прэзыдэнта. *"Готовьтесь"*, — адказаў Лукашэнка.

Пасьля сустрэчы прэзыдэнт яшчэ доўга размаўляў сам-насам са старшынём тэлерадыёкампаніі ў ягоным кабінэце. Можна чакаць, што тэлерадыёкампанія цяпер будзе асьвятляць падзеі (асабліва дзейнасьць прэзыдэнта і ягонай каманды) яшчэ больш "правильно".

**Міхась КАСЬПЯРОВІЧ**



## Захад нагадвае, што пагадненьні трэба выконваць

**Заява прэзыдэнта Лукашэнкі пра тое, што ён "аддаў загад спыніць рэзаць зброю", атрымала нэгатыўны рэзананс на Захадзе.**

**Міністар замежных справаў Нямеччыны К.Кінкель выказаў занепакоенасьць у сувязі з магчымасьцю невыкананьня Беларусяй сваіх абавязацельстваў, па скарачэньні звычайных узбраеньняў. Адзін з фундамантаў бясьпекі ў Эўропе не павінен ставіцца пад пытаньне аднабаковымі рашэньнямі, — падкрэсьліў сп.Кінкель.**

**У адпаведнасьці з пагадненьнем Беларусь павінна скараціць колькасьць танкаў з 3108 да 1800 і баявых самалётаў з 378 да 260 адзінак.** *(Падрабязнасьці чытайце на стар. 2)*

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990

Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."

Наклад 60 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56

Тэл./факс 36-24-41

- **Ельцына сустракалі ў Менску пераважна міліцыянты**
- **Масква "падтрымлівае" правядзеньне ў Беларусі рэфэрэндуму па пытаньні "братняй дружбы"**
- **Сьмерць на пляцы Перамогі**
- **Польская прэса адзначае, што на беларуска-расейскіх перамовах ваенныя пытаньні былі галоўнымі**

*(Падрабязнасьці чытайце на стар. 5—6)*

*Малюнак Міраслава ЛАЗОЎСКАГА*

# У хвасьце Эўропы ўсёй

**Адна з прычын пагаршэньня эканамічнага становішча ў Беларусі — прыпыненьне "вялікай" прыватызацыі, бо менавіта яна зьяўляецца стрыжнем рынкавых рэформаў.**

Так лічаць члены Міжнароднага клюбу "Дзелавы сьвет" Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, паседжаньне якога адбылося нядаўна ў Менску. На думку кіраўнікоў і спэцыялістаў міністэрства прыватызацыі, спыненьне "вялікай" прыватызацыі абумоўлена перадусім адсутнасьцю дакладнай палітыкі ўрада і прэзыдэнцкай каманды ў пытаньнях рэфармаваньня дзяржаўнай уласнасьці, а таксама незацікаўленасьцю ў разьдзяржаўленьні прадпрыемстваў і галіновых міністэрстваў. За тры з паловаю гады (прыватызацыя пачалася ў верасьні 1992 г.) рэфармавана толькі каля 400 прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасьці з тых 10.400, што падлягаюць прыватызацыі. Паводле зьвестак Эўрапейскага банку рэканструкцыі і разьвіцьця, прыватны сэктар складае сёньня толькі 15% у эканоміцы Беларусі, што зьяўляецца самым нізкім паказьнікам у Эўропе. Калі ж браць краіны СНД, то тут мы знаходзімся на аднолькавым узроўні з Туркмэніяй і Таджыкістанам.

# Колькі каштуе дружба

**"Комсомольская правда" апублікавала зьвесткі пра транзыт расейскай нафты праз тэрыторыю Беларусі.**

Аўтар прыводзіць такія лічбы: калі ў гэтым годзе Расея адправіць на Захад транзытам праз Беларусь 60 мільёнаў тон нафты, то пры дзяржпошліне ў 10 даляраў за тону нашая краіна атрымала б 600 мільёнаў USD. Але ў адпаведнасьці з падпісаным пагадненьнем Беларусь грошай не атрымае. Замест гэтага Беларусь зэканоміць 120 млн. даляраў, бо 12 мільёнаў тон расейскай нафты будуць пастаўленыя ў нашую краіну па цане, на 10 даляраў ніжэйшай за сусьветную. У выніку атрымліваецца, што Беларусь прайграе ад пагадненьняў з Расеяй 480 мільёнаў даляраў.

*БелаПАН*

# "Гэта не фальшыўка. Факт быў"

**Выступаючы на сэсіі Вярхоўнага Савету дэпутат П.Садоўскі заявіў, што прэзыдэнцкі прадстаўнік дэпутат А.Лябедзька дарэмна абвінавачвае газэту СВАБОДА.**

Гаворка ідзе пра копію запрашэньня нямецкай фірмы, у якім А.Лябедзька фігуруе як мэнэджэр камэрцыйнага прадпрыемства (дакумант быў надрукаваны ў СВАБОДЗЕ №6). Пасьля той публікацыі дэпутат заявіў, што гэта фальшыўка, і папрасіў шэфаў КДБ і МУС высьветліць паходжаньне дакумента.

З трыбуны Вярхоўнага Савету дэпутат П.Садоўскі (былы беларускі пасол у Нямеччыне) сказаў наступнае: "Тут было нядаўна даволі палкае выступленьне дэпутата Лябедзькі, які сьцьвярджаў, што тая копія дакумента — фальшыўка. Хачу супакоіць дэпутата. Я, што называецца, выпадкова ведаю гэты дакумант. Скажу, што гэта не фальшыўка. Факт быў. Гэты дакумант праходзіў прыблізна месяцаў чатыры-пяць таму праз нашае пасольства. Мы яго пераслалі на факс дэпутата Лябедзькі і ў Вярхоўны Савет".

Дэпутат Садоўскі параіў сп.Лябедзьку папрасіць прабачэньня ў тых, каго ён беспадстаўна абвінавачвае.

Між тым, дэпутат Лябедзька пакуль не прыслухаўся да парады свайго калегі. А можа, у яго папросту няма часу, бо прэзыдэнцкі прадстаўнік у чарговы раз ад'ехаў у Нямеччыну.

**Іван СІДАР**

**На здымку: дэпутат Лябедзька.**

# Паўлу Грачову патрэбна прастора "от Буга до Курил"

**Наведаньне Барысам Ельцыным Менскага аўтамабільнага завода не было выпадковым.**

На МАЗе выпускаюць цягачы да расейскіх ракетных установак. На пытаньне, ці ўдалося наладзіць патрэбныя кантакты з прадстаўнікамі беларускага машынабудаваньня, міністар абароны Расеі Павел Грачоў заявіў: "Нам удалося дамовіцца, і гэта стане яшчэ адным крокам да ўмацаваньня расейскага войска, якое перажывае цяпер не лепшыя часы. Беларускія калегі гэта зразумелі, і практычна ніякіх непаразуменьняў у нас ня ўзьнікла".

Камэнтуючы падпісаныя падчас візыту кіраўнікамі ваенных ведамстваў Расеі і Беларусі пагадненьні, Павел Грачоў сказаў: "Для Расеі вельмі важна, дзе будзе праходзіць нашая мяжа. Я кажу нашая, таму што ў маёй сьвядомасьці братэрства беларускага і расейскага народаў разбурыць нельга".

*СІМ*

# Лукашэнка пачаў будаваць "халодны мір"

**На просьбу карэспандэнта СВАБОДЫ патлумачыць нядаўнюю заяву Лукашэнкі аб спыненьні працэсу скарачэньня ўзбраеньняў Міністэрства замежных справаў Беларусі паведаміла, што гэта выклікана выключна фінансавымі цяжкасьцямі.**

Міжнародную дамову аб скарачэньні звычайных узбраеньняў у Эўропе Беларусь падпісала са спазьненьнем, чым выклікала занепакоенасьць заходніх краінаў. Калі ў кастрычніку 1992 г. парлямант разглядаў пытаньне ратыфікацыі гэтай дамовы, дэпутаты з камуністычнай большасьці, да якой адносіўся і дэпутат А.Лукашэнка, крычалі, што Беларусь трапляе ў сеткі НАТО. Вайскоўцы прапаноўвалі прадаваць зброю за мяжу. Нарэшце перамог здаровы сэнс, і 23 сьнежня 1992 г. першую партыю баявых машынаў пяхоты "парэзалі" на танкарамонтным заводзе ў Барысаве. Потым пачалі пераплаўляць артылерыйскую зброю, танкі, некаторыя самалёты. Зьнішчэньне лішкаў зброі састарэлых марак вялося строга па графіку і павінна было завяршыцца ў 1995 г. У выніку ліквідацыі баявых машын Беларусь атрымлівала 50 тысяч тон мэталю вышэйшай пробы.

4 лютага 1993 г. Беларусь ратыфікавала Дамову аб скарачэньні і абмежаваньні стратэгічных наступальных узбраеньняў і Лісабонскі пратакол да яе, далучылася да Дамовы аб нераспаўсюджваньні ядравай зброі. Гэта выклікала давер да Беларусі з боку Захаду.

Цяпер міжнароднаму аўтарытэту нашай краіны прэзыдэнт Лукашэнка наносіць моцны ўдар. Зрэшты, ягонай заявы можна было чакаць, бо любы антыдэмакратычны рэжым заўсёды ашчадна ставіцца да зброі.

Сымбалічна, што Лукашэнка загадаў спыніць зьнішчэньне баявой тэхнікі якраз напярэдадні візыту прэзыдэнта Ельцына. Некаторыя лічаць, што гэты крок быў ініцыяваны Масквой. Магчыма, што Крэмль вырашыў з дапамогаю Беларусі пастрашыць НАТО. Нагадаем: на нарадзе ў Будапэшце прэзыдэнт Ельцын сказаў, што ў выпадку ўступленьня краінаў Усходняй Эўропы ў НАТО паперадзе Расеі Эўропу пасьля халоднай вайны чакае "халодны мір". Першым на гэтую "дактрыну" старэйшага брата клюнуў, як вядома, прэзыдэнт Беларусі.

Апазыцыя ацэньвае падобныя заявы Лукашэнкі адназначна. Адзін зь лідараў БНФ дэпутат Голубеў лічыць, што "такія гульні прэзыдэнта падрываюць аўтарытэт Беларусі". "Мы павінны выконваць ратыфікаваныя нашай краінай пагадненьні, а не займацца спэкуляцыямі. Лукашэнку ж пастаянна заносіць: то ён гаворыць адно (каб спадабацца Маскве), то зусім іншае (каб улагодзіць Захад)", — адзначае дэпутат Голубеў.

Між тым, адміністрацыя Лукашэнкі робіць акцэнт не на палітычны, а на эканамічны бок праблемы. Як сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ дзяржсакратар Савету бясьпекі В.Шэйман, "Беларусь ня мае намеру выходзіць з Дамовы, будзе яе выконваць. Прыпыненьне зьвязанае са складанасьцямі ў фінансаваньні двух заводаў, якія займаюцца зьнішчэньнем зброі". На пытаньне, ці можа Расея дапамагчы вырашыць гэтую фінансавую праблему, В.Шэйман адказаў: "Відаць, не".

Спакойна адрэагавалі на заяву Лукашэнкі беларускія вайсковыя чыны. Прадстаўнік агенцтва па інспэкцыях і кантролі, які папрасіў не называць ягонага прозьвішча, сказаў: "Пасьля выступленьня прэзыдэнта трэба ставіць пытаньне перад нашымі калегамі па НАТО, каб яны аказалі нам дапамогу ў ажыцьцяўленьні міратворчай місіі. Мяркую, у НАТО падумаюць, як дапамагчы Беларусі. Зараз трэба знайсьці сродкі на сацыяльную абарону вайскоўцаў, якія звальняюцца, а таксама на перакваліфікацыю афіцэраў".

На Барысаўскім танкарамонтным заводзе пацьвердзілі, што браню рэзаць перасталі. Нямецкай фірме Sils адгрузяць толькі паўтары тысячы тон мэталялому, хоць кантракт заключаны на 20 тысяч тон. Цяпер гэты кантракт, відаць, зусім сарвецца. Аднак галоўны інжынэр упэўнены, што завод ня спыніцца. Ён спадзяецца на сумесныя праграмы па рамонце расейскай вайсковай тэхнікі. Такім чынам, можна чакаць напліву на Беларусь расейскага ламачча (уліваючы памеры войска і вайну ў Чачні).

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**На здымку: на Барысаўскім танкарамонтным заводзе.**

## Берасьце

# Пасьпелі да веснавой паводкі

**25-26 лютага дэпутаты Апазыцыі БНФ Лявон Баршчэўскі і Сяргей Навумчык наведалі Столінскі раён. Адбыліся сутрэчы ў 10-ці буйных вёсках і ў самім раённым цэнтры.**

Як паведаміў Л.Баршчэўскі, на гэты раз мэтаю паездкі было ня толькі тлумачэньне пазыцыі Народнага Фронту, але і агітацыя за верагодных кандыдатаў у дэпутаты па Столінскай і Давыд-Гарадоцкай выбарчых акругах. Са словаў Л.Баршчэўскага, палешукоў найбольш цікавілі пытаньні, зьвязаныя з апошнімі беларуска-расейскімі пагадненьнямі. Больш за 100 жыхароў Століншчыны паставілі свае подпісы пад зваротам "Народ супраць вайны", адрасаваным прэзыдэнту. У шэрагі Народнага Фронту запісаліся больш за 30 чалавек.

**І.С.**

# Камуністам няўтульна без "вэртыкальнага"

**У Кобрыні ўсё яшчэ застаецца вакантным месца кіраўніка прэзыдэнцкай "вэртыкалі".**

З гэтым ня могуць зьмірыцца дужа актыўныя апошнім часам прадстаўнікі Партыі камуністаў, Саюзу афіцэраў ды іншых падобных утварэньняў. На імя старшыні Берасьцейскага аблвыканкаму У.Заламая яны накіравалі хадайніцтва за таварыша Бурына, якога, па ўсім відаць, лічаць сваім. Да гэтага ён узначальваў у гарвыканкаме ўправу капітальнага будаўніцтва. Апошнім часам Бурын аддана моліцца ў праваслаўнай царкве. І чаго б гэта?

**Алесь ПЕТРУСЕВІЧ**

# І ў Берасьці ёсьць свае Галубковы

**У Берасьці пахне скандалам, падобным на той, што адбыўся ў Маскве з сумнавядомым МММ.**

Ад пачатку 1994 г. у Берасьці дзейнічае дачэрняе прадпрыемства расейскай фірмы "Финтраст интернэшнл", якое абяцала ўкладчыкам высокія дывідэнды. Але "Белфінтраст інтэрнэшнл" дагэтуль і ня думала выплочваць дывідэнды або вяртаць грошы 530-ці ўкладчыкам. Пасьля скаргаў грамадзянаў былі арыштаваныя банкаўскі рахунак і маёмасьць фірмы. Узбуджаная крымінальная справа супраць кіраўнікоў фірмы, якія зьбіралі грошы ад насельніцтва (дарэчы, яны займаліся гэтым безь ліцэнзіі Нацыянальнага банку). Ужо цяпер вядома, што больш за 2 млрд. рублёў былі пераведзеныя ў валюту і пералічаныя на рахункі дзьвюх маскоўскіх фірмаў. Тым ня менш, укладчыкі просяць пакуль не арыштоўваць супрацоўнікаў фірмы, бо спадзяюцца на вяртаньне хоць часткі сваіх грошай.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Даярак пасадзілі на веласіпеды

**У калгасе "Прыбужжа" Берасьцейскага раёну вырашылі забясьпечыць працаўнікоў асабістым транспартам.**

У хуткім часе першыя сто даярак, цялятніц і пастухоў пакоцяць на працу на навенькіх роварах, якія закупілі на менскім велазаводзе. Каб зэканоміць паліва, абяцае сесьці на веласіпед і сам старшыня калгасу Мікалай Козак. Ён сьцьвярджае, што гэтая думка ў яго нарадзілася пасьля наведаньня Ізраіля.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Хто супраць?

**На сходзе работнікаў Пружанскага райсельбуду была спроба выказаць недавер ягонаму начальніку С.Зялевічу.**

Рабочыя незадаволеныя, што яны практычна сядзяць бяз працы і ўжо трэці месяц не атрымліваюць заробку.

Яны лічаць, што кіраўніцтва наўмысна даводзіць прадпрыемства да банкруцтва, каб потым "прыхватызаваць" яго. Але за недавер начальніку выказаліся толькі 36 з 202 работнікаў. Галасаваньне было адкрытым, а сам Зялевіч асабіста падлічваў тых, хто падняў руку супраць яго.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Вэтэраны надакучылі самі сабе

**З нагоды 23 лютага ў Горадні мясцовая вэтэранская арганізацыя наладзіла ў Доме афіцэраў прапагандысцкае мерапрыемства.**

Паколькі пэнсіянэры ўжо даўно надакучылі самі сабе сваімі заўсёды аднолькавымі размовамі, дык на гэты раз на сустрэчу былі запрошаныя старшаклясьнікі гарадзенскіх школаў. Пакуль пэнсіянэры апавядалі пра Сталінград, хлопцы сядзелі ціха. Аднак потым дзяды пачалі выхоўваць будучых абаронцаў Радзімы на слаўных сувораўскіх традыцыях. Сталі лаяць Пазьняка ды Шушкевіча, беларускі дзяржаўны сьцяг і герб. Тут шмат якія школьнікі ня вытрымалі і кінуліся ўцякаць. Аднак выхады былі перакрытыя, і хлопцаў вярнулі на месца. Давялося даслухаць ім усё да канца.

**В.ВАСІЛЕВІЧ**

## Даяркі пацярпелі за БНФ

**У вёсцы Палушы Астравецкага раёну звольненая з працы сябра мясцовай суполкі БНФ Алена Грыва, якая працавала даяркаю.**

Пасьля гэтага самі напісалі заявы аб звальненьні яшчэ дзьве сябры БНФ — даярка В.Броўка і загадчыца фэрмы А.Замара, якая мае дыплём вэтэрынара.

Суполка БНФ утварылася ў Палушах у канцы мінулага года, пасьля таго, як вёску наведалі дэпутаты Вярхоўнага Савету ад Апазыцыі БНФ. Старшыня калгасу імя Мічурына В.Балабановіч тады непрыхільна паставіўся да прыезду дэпутатаў і забараніў адчыніць клюб для сустрэчы. Пасьля гэтага ў вёсцы ўтварылася суполка БНФ з 13 чалавек.

**Мікола БАЎСЮК**

## Як спадар Гірас падмануў суд

**Дэпутат Гарадзенскага гарадзкога савету Іосіф Палубок падаў у суд заяву за абразу на свайго калегу дэпутата Гіраса.**

Аднак сп.Гірас у суд не зьявіўся, прыслаўшы тлумачэньне, што ў гэты дзень ён будзе знаходзіцца ў службовай камандзіроўцы ў Рызе. Суд адклалі. Сп.Палубок быў вельмі зьдзіўлены, калі ў той жа дзень сустрэў Гіраса ў тралейбусе.

Рэч у тым, што на апошняй сэсіі гарсавету большыня дэпутатаў ухвалiла перайменаваньне вуліц. Сярод іх быў і сп.Палубок. Тымчасам актыўны ўдзельнік "Очищения" і ПКБ сп.Гірас змагаўся супраць. У мясцовай прэсе ён абазваў працілеглы бок "хороводом депутатов-демагогов, доходящих до хулиганства". Варта нагадаць, што натхнёны падтрымкаю Гіраса камуністычны пікет падчас сэсіі напаў на сяброў БНФ і зьбіў да крыві прафэсара мэдычнага інстытута А.Астроўскага.

Дарэчы, праз сп.Гіраса ледзьве не пацярпеў яго паплечнік сп.Абросімаў — актывіст вэтэранскай арганізацыі, які прыйшоў на суд, каб падтрымаць адказчыка. Па недасьведчанасьці вэтэран назваў судзьдзю "сакратаром-дзевачкаю", за што ледзьве не атрымаў адміністратыўнае спагнаньне.

**Адам ЗАНЕЎСКІ**

## Чыноўніку і мільёна мала

**Чыноўнікі ўвесь час скардзяцца на нізкую зарплату. Між тым, як высьвятляецца, яны зусім ня самыя бедныя людзі.**

Напрыклад, у Слоніме (паводле зьвестак раённага аддзелу статыстыкі) чыноўнікі ўправы капітальнага будаўніцтва гарвыканкаму па ўзроўні зарплаты стаяць на другім месцы. Іхны заробак за студзень склаў 1 млн. 400 тыс. рублёў. Больш за іх атрымалі толькі работнікі Слонімскай нафтабазы — у сярэднім па 1 млн. 897 тыс. рублёў.

Самы нізкі заробак па-ранейшаму маюць мэдыкі і настаўнікі — ад 190 да 250 тыс. рублёў.

**Яўген АЛАДКА**

## Калгасныя раманы

**Старшыня калгасу імя Леніна Слонімскага раёну Генадзь Красачка вырашыў упісаць сваё імя ў гісторыю калгаснага ладу.**

За калгасныя грошы ён выдаў кнігу, дзе ўсхваляецца яго ная дзейнасьць. З кніжкі можна даведацца, напрыклад, што "Генадзя Мар'янавіча паважаюць і любяць у калгасе", што "з прыходам Красачкі ў калгасную казну пацяклі мільённыя прыбыткі...". Абураныя калгасьнікі даслалі гэты твор у рэдакцыю і папрасілі праверыць, куды ж "пацяклі" калгасныя грошы.

Карэспандэнт СВАБОДЫ высьветліў, што на банкаўскім рахунку калгасу па стане на 1 студзеня 1995 г. знаходзілася ўсяго 3,9 млн. рублёў. Дарэчы, прыкладна столькі грошай было патрачана на выданьне кніжкі. Акрамя таго, грошы "расьцякаюцца" наступным чынам: за 12 млн. рублёў быў набыты новы легкавы аўтамабіль, 66 мільёнаў пайшло на будаўніцтва асабняка для старшыні... Цікава, што ў 1993 г. у калгасе было пабудавана тры дамы агульнай плошчай 267 кв.м, а ў 1994 г. адзін катэдж на 249 кв.м — для таварыша Красачкі. Аднак пра гэта ў кніжцы не паведамляецца.

**Валодзя ЯНЧУК**

# НА БЕЛАРУСІ

## Пікетчыкаў правакуюць

**Актывісты БНФ у Горадні працягваюць збор подпісаў пад заявай "Народ супраць вайны".**

З гэтай мэтай на цэнтральным пляцы горада выстаўляецца пікет. Аднойчы пікетчыкам хацелі перашкодзіць, стварыўшы інцыдэнт. Да іх некалькі разоў падыходзілі агрэсіўныя пэнсіянэры і члены Саюзу афіцэраў, якія відавочна спрабавалі справакаваць удзельнікаў пікету. Адразу пасьля гэтага да пікетчыкаў падышоў мужчына, які прадставіўся супрацоўнікам КДБ, і заявіў, што ім паведамілі па тэлефоне, нібыта пікетчыкі гвалтам прымушаюць гараджанаў падпісваць сваю заяву.

**С.М.**

## У Шклове свае законы

**У Шклове міліцыя забараняе актывістам БНФ зьбіраць подпісы пад зваротам "Народ супраць вайны".**

Мясцовыя ўлады лічаць гэтую акцыю незаконнай.

**А.С.**

## Новыя клопаты Андрэя Клімава

**"Нямеччына і сёньня не пакідае плянаў Гітлера аб зьнішчэньні беларускага народа", — заявіў у сваёй прамове перад вэтэранамі менскага мікрараёну "Усход" беларускі прадпрымальнік Андрэй Клімаў.**

Менавіта ён фундаваў гэтую ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную дню 23 лютага. Клімаў распавядаў вэтэранам пра сваю цяжкую, няўдзячную працу, прызнаваўся ў любові да абаронцаў Айчыны, абяцаў ім усялякую дапамогу.

Пра матывы актыўнасьці сп.Клімава няцяжка здагадацца: хутка парляманцкія выбары.

**Юрась МАТУСЭВІЧ**

## У Гарадоцкім раёне не падтрымліваюць прэзыдэнта

**56,5% апытаных Гарадоцкага раёну Віцебскай вобласьці не падтрымліваюць дзейнасьці прэзыдэнта Лукашэнкі.**

Такія вынікі сацыялягічнага апытаньня, праведзенага мясцовым прадстаўніцтвам Нацыянальнай асамблеі садзейнічаньня сацыяльна-эканамічнай рэформе "Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс" і віцебскай сацыялягічнай лябараторыяй "Ісьціна". Большасьць апытаных таксама не падтрымліваюць цяперашнюю практыку прызначэньня "вэртыкалі". 65% рэспандэнтаў лічаць, што мясцовыя кіраўнікі абавязкова павінны абірацца ўсенародна.

*БелаПАН*

## Міністар дае парады

**На мінулым тыдні Віцебшчыну наведаў міністар сельскай гаспадаркі сп.Лявонаў.**

На сустрэчы зь мясцовымі аграрнікамі ён прапанаваў плян выратаваньня жывёлагадоўчых комплексаў-гігантаў ад банкруцтва. Міністар заклікаў кіраўнікоў гаспадарак браць крэдыты ў Італіі і на гэтыя грошы купляць там камбікармы. Але пры гэтым міністар папярэджваў, што "калі нехта ня выканае ўмоваў кантракту, італьянцы свае грошы вытрасуць з аўтаматамі і вывезуць апошнюю жывёлу разам са сьценамі". Пасьля такога папярэджаньня ніхто не адгукнуўся на парады міністра.

**Тамара СЁМУХА**

## У Слаўгарадзе хочуць засудзіць пракурора

**У Слаўгарадзе раённы пракурор В.Суздалеў можа ў якасьці адказчыка трапіць у суд і, магчыма, будзе вымушаны прынесьці свае прабачэньні гарвыканкаму на сэсіі гарадзкога савету.**

Менавіта гэтага патрабуе выканаўчая ўлада ад пракурора за тое, што ён нібыта "без падставаў" абвінаваціў выканкам у парушэньнях жыльлёвага заканадаўства.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Камуністы знайшлі занятак

**У Віцебску камуністы арганізавалі мітынг у падтрымку ініцыятывы прэзыдэнта па правядзеньні рэфэрэндуму аб двухмоўі і дзяржаўнай сымболіцы.**

На мітынг сабралася каля 150 чалавек, у большыні гэта былі людзі старэйшыя за 60 гадоў. Свае подпісы за рэфэрэндум паставілі 25 чалавек.

**Тамара СЁМУХА**

## Плююць на культурны слой

**Усё больш бессаромна грэбуюць гістарычнай спадчынай Віцебска мясцовыя ўлады.**

Летась у жніўні тагачасны старшыня гарвыканкаму В.Невушаў падпісаў рашэньне: адабраць тэрыторыю былога Узгорскага замка ў дзяржаўнага малога прадпрыемства "Віцебскпраектрэстаўрацыя", бо апошняе самавольна пачало забудову ахоўнага месца. Грамадзкасьць супакоілася. Але ўсяго праз паўгода В.Невушаў ціхенька падмахнуў зусім іншую паперу, паводле якой "Віцебскпраектрэстаўрацыя" атрымала 4 гектары зямлі ў тым самым месцы для праектаваньня гандлёва-выставачнага цэнтра. А каб не выклікаць абурэньня вучоных і аматараў даўніны, гэтае рашэньне было як належыць "узгоднена" з камісіяй па культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны гарадзкога выканаўчага камітэту.

Сёньня, даведаўшыся пра такое варварства, члены камісіі хапаюцца за галаву. Тоўсты, багаты культурны слой яшчэ зусім не дасьледаваны, тут не праводзіліся сур'ёзныя археалягічныя раскопкі, а тым часам побач з падмуркамі касьцёла Сьвятога Антонія і Бэрнардынскага кляштара на беразе Віцьбы зьбіраюцца ўзьвесьці трохпавярховы будынак камэрцыйнага прызначэньня.

Ідэя будаўніцтва належыць кіраўніку "Віцебскпраектрэстаўрацыі" сп.Лядэнку. Замест таго, каб займацца аднаўленьнем старога Віцебска, які працягвае гінуць на вачох, "рэстаўратары" кінуліся ў бок гандлёвага бізнэсу.

**Уладзімер СЯРГУН**

# За Антончыкам езьдзіць небясьпечна. Могуць пабіць

**Мяркуючы па шматлюдных сустрэчах дэпутата С.Антончыка, праблема карупцыі працягвае хваляваць грамадзтва. Аднак чарговая сустрэча з С.Антончыкам, якая павінна была праходзіць у панядзелак 27 лютага ў менскім опэрным тэатры, не адбылася — у апошні момант адміністрацыя тэатра адмовілася даваць залю, нагледзячы на тое, што загадзя ўзяла зь ініцыятараў грошы за арэнду.**

Сяргей Антончык паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ў бліжэйшы час ён зьбіраецца правесьці шэраг сустрэчаў у Гарадзенскай вобласьці. Дэпутат таксама сказаў, што цяпер за ім пасталі езьдзіць "прэзыдэнцкія хвасты" (чыноўнікі адміністрацыі прэзыдэнта). Раней, як вядома, яны ўсьлед за Антончыкам езьдзілі на сустрэчы, дзе спрабавалі пераконваць публіку ў тым, што нібыта ніякіх карупцыянэраў у камандзе Лукашэнкі няма. Антончык мяркуе, што прэзыдэнцкія прапагандысты баяцца выступаць перад "прастою аўдыторыяй" пасьля аднаго інцыдэнту, які здарыўся ў Бабруйску.

У гэты горад сьледам за С.Антончыкам прыехалі кіраўнік прэзыдэнцкай службы кантролю В.Далгалёў і памочнік прэзыдэнта па асобых дарручэньнях В.Кучынскі. Разам з публікаю яны па працягу трох гадзінаў слухалі дэпутата Антончыка, а потым, калі той пакінуў залю, захацеў выступіць "даручэнец" В.Кучынскі. Вось як апісаў сытуацыю ў бабруйскім "Коммерческом курьере" карэспандэнт гэтай газэты, які быў сьведкам інцыдэнту (цытуем на мове крыніцы): *"Но тут инициативу перехватил доселе молчавший помощник президента В.Кучинский... Однако Виктора Францевича мало кто слушал. Некий чересчур ретивый дед, выскочив на сцену, попытался столкнуть с нее помощника Президента. Срывающимся от волнения голосом последний заговорил вдруг по-белорусски: "Няхай тыя, хто тут выступай, адкажуць, на каго працуюць...". Ответом был свист.*

*Человек, который, по словам Антончика, "имеет влияние на президента", на этот раз выглядел не очень-то уверенно. Увидев, что его доводы разбиваются о стену непонимания, Кучинский в сердцах воскликнул: "Все, что я говорю, — из души. У меня, может, давно было желание уйти с этой власти, но если все уйдут, что будет?"*

Антончык лічыць, што прэзыдэнцкім прадстаўнікам больш бясьпечна выступаць у тэлеэфіры. У гэтым выпадку можа быць пабіты толькі тэлевізар.

**Іван СІДАР**

СВАБОДА

Дэпутат Кучынскі выступае ў Вярхоўным Савеце

Уладзімер Заблоцкі

# 1. Новы эканамічны парадак: што трэба зрабіць спачатку

**СВАБОДА пачынае друкаваць сэрыю артыкулаў дэпутата Уладзімера Заблоцкага — прэм'ера ценевага кабінэту Апазыцыі. Гэтыя матар'ялы ў пэўным сэнсе можна лічыць праграмнымі, у іх выкладаецца бачаньне ценявым кабінэтам ключавых праблемаў эканамічнай рэформы.**

Цяперашняе кіраўніцтва Беларусі і афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі спрабуюць пераканаць грамадзтва ў тым, што мы ўжо нібыта жывем ва ўмовах рынку, што ўведзены рынкавы эканамічны парадак. Гэта чарговы падман, ці, прасьцей кажучы, самая прымітыўная хлусьня. Аднак яна дэзарыентуе людзей, якія прывыклі давяраць друкаванаму слову, начальству, тэлевізіі. А паколькі жыцьцё з кожным днём усё горшае, то людзі вінавацяць у гэтым праклятым рынак, дэмакратыю і розных ворагаў. Хоць кожны больш-менш дасьведчаны чалавек разумее, што ні рынкам, ні дэмакратыяй у нашай краіне, як кажуць, і ня пахне.

Прэзыдэнт Лукашэнка і ягоны ўрад сьцьвярджаюць, быццам яны рэфармуюць эканоміку ў рынкавы бок. Але паглядзіце, што адбываецца: за **мэту** яны ставяць стварэньне рынку, а **сродкі** пры гэтым выбіраюць у асноўным старыя, адміністратыўныя, з пэўным ідэалягічным ухілам. І гэта ў той час, калі **мэтаю павінна стаць дасягненьне высокага ўзроўню жыцьця грамадзянаў Беларусі, а сродкам дасягненьня мэты — увядзеньне рынкавага эканамічнага парадку.** Такім чынам, блытаючы мэты і сродкі, нашыя "рэфарматары" заяўляюць, што рынак будзе ўводзіцца паступова. І ў выніку гэтай "паступовасьці" нашае жыцьцё ў эканамічным сэнсе становіцца ўсё горшым і горшым, прычым зьменаў да лепшага не відаць нават у пэрспэктыве. Кіраўніцтва спрабуе знайсьці вінаватых і ворагаў і ўказаць на іх народу: "Вось хто вінаваты! Дэмакратыя, дэмакраты, прадпрымальнікі, банкіры, рынак! Ату іх усіх!". Фармуецца настальгія па былых парадках і часах.

Не разумеючы, на жаль, сутнасьці праблемаў і працэсаў, гэтыя "рэфарматары" клічуць наперад, рухаючыся назад. Яны настойліва ігнаруюць той факт, што суседнія дзяржавы (напрыклад, Польшча, краіны Балтыі) дасягнулі посьпеху менавіта дзякуючы ўвядзенью рынкавага эканамічнага парадку. Але для Лукашэнкі і астатніх гэта не аргумант. Яны шукаюць пацьверджаньня сваім уяўленьням у іншых краінах — там, дзе фармуецца бюракратычна-крымінальны рэжым.

Дык у чым жа сутнасьць рынкавага эканамічнага парадку і якім чынам пры гэтым парадку можна разьлічваць на высокі ўзровень жыцьця? І калі? Нагадаем вядомыя палажэньні аб асноўных прынцыпах рынкавых адносінаў, якія перадусім прадугледжваюць суіснаваньне мноства суб'ектаў, што зьяўляюцца ўласьнікамі розных рэсурсаў: гэта нерухомасьць, якая ўключае зямлю, сродкі вытворчасьці, жыльлё, а таксама прыродныя рэсурсы, здольнасьць людзей выконваць пэўную работу і г.д.

**Першым прынцыпам зьўляецца рэалізацыя свабоды эканамічнай дзейнасьці.** Гэта значыць, што кожны чалавек у якасьці фізычнай ці юрыдычнай асобы можа займацца любой эканамічнай дзейнасьцю, не забароненай законам, і гэтае ягонае права не павінна залежаць ад чыноўніка, г.зн. дзейнічае ня прынцып дазволу, а прынцып рэгістрацыі. Кожны суб'ект, які гаспадарыць і зьяўляецца ўласьнікам, павінен мець правы ўласьніка без абмежаваньняў. Ён сам вызначае, якой вытворчасьцю займацца, у якім маштабе, каму прадаваць і па якім кошце. Выхад на зьнешні рынак атрымлівае кожны вытворца і імпартэр. Ліцэнзійная палітыка ў зьнешнеэканамічных зносінах замяняецца мытнай, дзе таксама працуе рэгістрацыйны прынцып: рух тавараў ня можа быць перапынены на мяжы, калі вытрыманыя патрабаваньні па якасьці, заплочаныя падаткі. Натуральна, забясьпечваецца абарона ад арганізаванай злачыннасьці ва ўсіх яе праявах.

**Другі прынцып заключаецца ў забесьпячэньні свабоды спажываньня.** Прычым свабода спажываньня — і ў стандартным разуменьні спажыўца, і ў тым, каб спажываць усё неабходнае для вытворчасьці. У спажывецкім разуменьні — гэта права набываць за свае грошы тое і там, дзе падабаецца пакупніку. У вытворчым жа сэнсе — гэта свабода набыцьця ўсяго, што неабходна для вытворчасьці, а значыцца — сродкаў вытворчасьці, зямлі, жыльля, прыродных і фінансавых рэсурсаў, рабочай сілы. І тут важна падкрэсьліць, што ў большай ступені гэта ня новыя рэсурсы, а тыя, якія мае краіна, але ў выніку дзеяньня эканамічных мэханізмаў ва ўмовах канкурэнцыі прадугледжваюцца апэратыўныя працэдуры перадачы права ўласнасьці тым асобам (юрыдычным і фізычным), якія змогуць забясьпечыць найбольш эфэктыўнае яе функцыяваньне. І ў такой перадачы зацікаўленае ўсё грамадзтва, бо ў выніку гэтага павышаецца эфэктыўнасьць грамадзкай вытворчасьці.

**Трэці прынцып — адказнасьць за стварэньне ўмоваў для канкурэнцыі і нагляд за выкананьнем гэтых умоваў ляжыць на дзяржаўным кіраўніцтве.** Пры канкурэнцыі кожны вытворца-ўласьнік працуе на максімальную ўласную выгаду і захаваньне свайго месца на рынку, значыць за кошт гэтага ствараецца рынак пакупнікоў, але не вытворцаў. Выйграюць тыя вытворцы, якія могуць прапанаваць пакупнікам больш якасную прадукцыю па ніжэйшых коштах і на лепшых умовах. Такім чынам, вытворцам на рынку пакупнікоў даводзіцца клапаціцца пра зьніжэньне затратаў на вытворчасьць прадукцыі, павышэньне якасьці працы, аб пошуку навукова-тэхнічных рашэньняў, аб абароне правоў на прамысловую і інтэлектуальную ўласнасьць. Усё гэта разам узятае стварае ўмовы для актыўнага разьвіцьця эканомікі. Сапраўды, вытворцу цяжка на рынку пакупнікоў, але так мусіць быць, бо гэта забясьпечвае абарону інтарэсаў спажыўцоў.

**Ключавою праблемаю эканамічнага парадку зьяўляюцца адносіны ўласнасьці.** Досьвед розных краінаў у рэфармаваньні эканомікі паказвае, што там, дзе гэтыя пытаньні ня вырашаныя і не адрэгуляваныя, там ствараюцца ўмовы для фармаваньня так званага крымінальна-бюракратычнага рынку. У тых жа краінах, дзе пытаньням уласнасьці, гарантыям права ўласнасьці надаецца належная ўвага і дзе гэтыя пытаньні вырашаны лягічна і карэктна, — там пайшлі рэформы, стабілізавалася нацыянальная валюта, атрыманыя значныя тэмпы росту валавага нацыянальнага прадукту.

**Што ж неабходна вызначыць спачатку, як базыс для ўсяго наступнага?** Можна пералічыць гэтыя пытаньні. Што такое ўласнасьць? Каму яна належыць? На якіх умовах уласьнік аддае сваю ўласнасьць ва ўладаньне і карыстаньне? Гэта значыць тое, што вызначаецца тэрмінам — адносіны ўласнасьці.

Таксама надзвычай важнае пытаньне, што такое дзяржаўная маёмасьць. Дзяржаўную маёмасьць трэба разумець як набытак усяго народа, а ня толькі тых, хто працуе на канкрэтным прадпрыемстве. Дзяржаўная маёмасьць належыць кожнаму асобнаму чалавеку гэтаксама, як і ўсім іншым грамадзянам, а не выключна гэтаму прадпрыемству. Таму выраз "сваё (маё) прадпрыемства", "працоўны калектыў" як юрыдычныя тэрміны з пункту гледжаньня адносінаў уласнасьці павінны атрымаць адпаведныя тлумачэньні.

Тэрмін "працоўны калектыў" у сацыялістычны пэрыяд ствараў ілюзію ўласьніка ў працаўнікоў на канкрэтным прадпрыемстве, але толькі ілюзію. У той жа час такі падыход узьнімаў у прынцыпе невырашальныя праблемы, падзяляючы цэльны арганізм грамадзтва і дзяржавы на нібыта патрэбныя і непатрэбныя падсыстэмы і органы; гэта тое самае, як сьцьвярджаць, што калі чалавек ідзе, то функцыянуюць толькі ногі, а астатнія падсыстэмы арганізма ігнараваць. Зыходзячы з такой імгненначасавай пазыцыі, эканоміку падзялялі на вытворчую сфэру і невытворчую, калі прадстаўнікі другой — напрыклад, настаўнікі, дактары, вайскоўцы, прадстаўнікі культуры, навукі, дзяржапарату і іншыя — лічыліся нахлебнікамі, другасортнымі. Але ж гэта якраз тыя, хто забясьпечвае аднаўленьне грамадзтва і дзяржавы. Таму неабходна аналізаваць больш працяглы інтэрвал часу ў 20—50 гадоў. Гэта дасьць магчымасьць прымаць рашэньні па кароткатэрміновых (год, пяць гадоў) плянах з улікам доўгатэрміновых патрабаваньняў.

Пры ўстанаўленьні рынкавага эканамічнага парадку асаблівую ўвагу павінна атрымаць дзяржаўная ўласнасьць. Неабходна, у рэшце рэшт, прызнаць, што ўласнасьць павінна разглядацца як накопленае мінулаю працаю, або як прыроднае багацьце, і яе эксплюатацыя павінна прыносіць даходы ўласьніку. Калі такой умовы няма, то ў эканоміцы не ўзьнікае матывацыі для набыцьця, захаваньня і паляпшэньня гэтай уласнасьці, або даходы (калі няма яснай і дакладнай трактоўкі адносінаў уласнасьці) прысвойваюцца пэўнымі групамі людзей, якія на самой справе ня маюць такіх правоў. Хто цяпер прысвойвае гэтыя даходы? Канечне ж, тыя, хто бліжэй да выканаўчай улады. Неўпарадкаванасьць адносінаў уласнасьці — вялізнае поле для карупцыі. Значыцца, для вырашэньня праблемы карупцыі неабходна ўстанавіць выразныя і ясныя адносіны ўласнасьці.

Калі дзяржаўная ўласнасьць — усенародны набытак, значыцца ўласьнікам зьяўляецца народ, г.зн. усе грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Значыцца даходы ад выкарыстаньня, эксплюатацыі дзяржаўнай уласнасьці неабходна накіроўваць на вырашэньне агульнанародных задачаў — такіх, як ахова здароўя, культура, жыльлёвае будаўніцтва, падтрымка пакупніцкай здольнасьці насельніцтва, інвэстыцыі для паляпшэньня якасьці дзяржаўнай уласнасьці.

Сэктар эканомікі дзяржаўнай формы ўласнасьці павінен працаваць эфэктыўна, з максімальна магчымым прыбыткам. Але рынкавыя мэханізмы працуюць і павінны працаваць толькі для мноства ўласьнікаў, і ў гэтым сэнсе сэктар эканомікі дзяржаўнай формы ўласнасьці павінен быць прадстаўлены адным уласьнікам, нельга ўнутр гэтага сэктара пераносіць і дапускаць рынкавыя мэханізмы, напрыклад, такія як банкруцтва ці вэксальны абарот, таму што за страты і даходы адказвае адзін уласьнік і ня варта яму перакладваць даходы і страты з адной сваёй кішэні ў сваю ж другую. Значыцца, пры такім падыходзе нельга раскідвацца і зьнішчаць гэтую ўласнасьць народа шляхам непрадуманай прыватызацыі, а варта разглядаць як адзіны комплекс зь неабходнымі інстытутамі плянаваньня, забесьпячэньня і да т.п.

Але тым ня менш у дзяржаўную палітыку ўзводзіцца аддзяленьне ўладных функцый дзяржавы ад эканомікі. У дачыненьні да дзяржаўнай уласнасьці адбываецца разьдзел функцый уласнасьці і ўлады. Сэктар эканомікі дзяржаўнай формы ўласнасьці атрымлівае такія ж правы і абавязкі, як і недзяржаўны сэктар. Паўнамоцтвы ўлады павінны таксама аднолькава прымяняцца да абодвух сэктараў эканомікі. Дзяржаўны апарат ажыцьцяўляе паўнамоцтвы ўлады (але не паўнамоцтвы ўласьніка) і фінансуецца з бюджэту выключна за кошт паступленьняў ад падаткаў.

Хто ж павінен выступаць ад імя народа ў якасьці ўласьніка ўсёй дзяржаўнай уласнасьці? Выканаўчая ўлада выконвае ўладныя паўнамоцтвы, каардынуе эканамічную дзейнасьць, але не бярэ на сябе функцыі ўласьніка дзяржаўнай уласнасьці.

Лягічна, каб гэтыя функцыі выконваў прадстаўнічы і заканадаўчы орган, г.зн. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, а ў дачыненьні да камунальнай уласнасьці — адпаведныя ўзроўні прадстаўнічай улады. Выканаўчая галіна ўлады і іншыя галіны атрымліваюць дзяржаўную ўласнасьць у аб'ёме, які забясьпечвае іх функцыяваньне для выкананьня ўладных функцыяў.

Зроблены першы крок у гэтым накірунку. У Законе аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь прыняты артыкул 10, які гаворыць: "Вярхоўны Савет ажыцьцяўляе паўнамоцтвы ўласьніка ў дачыненьні да ўласнасьці Рэспублікі Беларусь. Іншыя органы дзяржаўнай улады і кіраваньня, юрыдычныя і фізычныя асобы валодаюць, карыстаюцца і распараджаюцца дзяржаўнай маёмасьцю ў адпаведнасьці з законам".

Неабходна ўпарадкаваць гэтыя дачыненьні зь дзяржаўнай уласнасьцю і прывесьці іх у адпаведнасьць з лёгікай і законамі. Напрыклад, нашто Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта захапіла 64 лепшыя будынкі ў цэнтры Менска? Каб атрымліваць прыбытак ад камэрцыйнай дзейнасьці зь іх выкарыстаньнем? А нашто яму ўсе нацыянальныя запаведнікі і заказьнікі? Каб забясьпечыць высакаякасны адпачынак прэзыдэнту? А можа, варта аддаць яму, як прэзыдэнту ЗША, у карыстаньне адну дзяржаўную дачу — будзе тады ў нас адзін Кемп-Дэвід, і гэтага дастаткова?

*Далей будзе.*

## Міліцыянты махалі сьцяжкамі без энтузіязму

**Надзіва мала людзей прыйшлі на пляц Перамогі, каб прывітаць Барыса Ельцына.**

Аднак і тыя, хто прыйшоў, таксама былі расчараваныя, бо перад прыездам госьця іх выціснулі з пляца амонаўцы, а месца публікі занялі КДБэшнікі ды пераапранутыя ў цывільнае курсанты міліцэйскай школы (пасьля "мерапрыемства" яны амаль калёнаю вярнуліся ў свае казармы на вул.Варвашэні). Кожнаму курсанту выдалі сьцяжок, які з аднаго боку быў бел-чырвона-белы, а з другога — у расейскія колеры. Але сваю ролю хлопцы выканалі няўдала, бо махалі без энтузіязму (відаць, мала рэпетавалі).

Я назіраў гэтую дзею з кватэры свайго сябра, вокны якой выходзяць на пляц. Калі мы ішлі сюды, у пад'езьдзе на кожным паверсе стаялі амонаўцы, якія штораз спынялі нас — ледзь трапілі ў кватэру. Сяброва бабуля расказвала, што з раніцы ў хату прыходзілі міліцыянты і ўзялі зь яе падпіску, што: *1) з 13.00 да 15.00 у хаце яна будзе адна; 2) Ня будзе падыходзіць да вокнаў бліжэй за 3 мэтры.* А на словах дадалі, што калі яна наблізіцца бліжэй, то атрымае кулю ў лоб. Мы адразу падышлі да вакна, чым выклікалі ў бабулі такую рэакцыю, быццам за вокнамі выбухнула бомба. Бедная жанчына! Якое ж трэба пражыць жыцьцё, каб так баяцца выглядаць у вакно ўласнай кватэры! За свае 80 гадоў гэтая мудрая сівая жанчына засвоіла выдатна: нічога добрага ад гэткай кампаніі чакаць нельга.

**Сяргей МУРОГ**

**На здымку: расейскі снайпэр на пляцы Перамогі ў Менску.**

СВАБОДА

## Савецкае дзікунства

**21 лютага, калі Б.Ельцын ускладаў кветкі да помніка на пляцы Перамогі ў Менску, на суседняй вуліцы памёр чалавек.**

Гэта Барыс Міхайлавіч Гуляеў, жыхар Менска, каля 65 гадоў. Выходзячы з дому, ён сказаў родным, што ідзе "паглядзець на Ельцына". Аднак на падыходзе да пляца яго схапіў сардэчны прыступ. Міліцыянт, які стаяў у ачапленьні, выклікаў хуткую дапамогу. Выклік паступіў на станцыю ў 13.29. Брыгада доктара Цімафеева выехала адразу. Ад станцыі хуткай дапамогі ехаць тры хвіліны. Але "хуткую" не прапусьцілі. Першы раз міліцэйскі кардон спыніў яе на скрыжаваньні вуліц Захарава і Першамайскай, другі — у Бранявым завулку. Тут у кіроўцы, які спрабаваў давесьці, што брыгада едзе да "сардэчніка", пагразілі адабраць правы. Калі спынілі трэці раз, брыгада выйшла з машыны і пайшла пешшу. Спазьніліся. Дапамога Гуляеву была непатрэбная. Брыгада мэдыкаў канстатавала сьмерць і выклікала спэцыяльную машыну для дастаўкі цела ў гарадзкое бюро судова-мэдычнай экспэртызы. Але яшчэ доўга цела памёрлага ляжала на вуліцы, рух па якой быў перакрыты. І толькі ў 17.20 нябожчыка даставілі ў морг.

*БелаПАН*

## Масква не давярае журналістам

**Беларускія і замежныя журналісты, якія прыйшлі напярэдадні візыту Ельцына атрымаць пропускі, вельмі зьдзівіліся, пабачыўшы на іх дзіўны надпіс: "Министерство иностранных дел Российской Федерации".**

Пры гэтым пропускі атрымалі далёка ня ўсе журналісты. У прыватнасьці, не атрымалі акрэдытацыі прадстаўнікі польскіх сродкаў масавай інфармацыі. У той жа час расейскія журналісты, якія прыляцелі з Барысам Ельцыным, атрымалі так званыя "вездеходы" — пропускі, якія забясьпечваюць доступ на ўсе мерапрыемствы.

*СІМ*

## Радавацца рана

**"Візыт прэзыдэнта Ельцына ў Менск быў абстаўлены з чароўнай савецкай помпай", — так напісала швайцарская газэта *Neue Zürcher Zeitung*.**

"Абодва кіраўнікі акцэнтавалі быццам бы нечуванае значэньне пагадненьняў для абедзьвюх краінаў. І перш за ўсё Ельцын выказаў вялікае задавальненьне дамовай аб межах", — паведамляе *NZZ*.

*NZZ* заўважае, што расейска-беларускае супрацоўніцтва ў галіне эканомікі "рэгулярна прыносіць расчараваньні". "Сёньня, — піша газэта, — ніхто не гаворыць пра грашовы саюз. Падпісаныя на гэты раз дамовы застаюцца нераскрытымі ў дэталях (акрамя мытнага саюзу), і яны ня вельмі зьменяць сытуацыю".

"Масква ня хоча даваць асаблівыя прывілеі бязь ясных палітычных паслугаў у адказ, — піша далей *NZZ*. — Масква адхіліла просьбу Беларусі атрымаць па нізкіх коштах расейскую нафту. Затое Ельцын паабяцаў у хуткім часе накіраваць Менску 150-мільярдны рублёвы крэдыт. Але ўлічваючы тое, што МВФ можа адмовіць Маскве ў крэдыце на 6 млрд. даляраў, такія абяцаньні выглядаюць занадта аптымістычнымі".

**А.Д.**

# Польская прэса аналізуе візыт Ельцына

"Фронт беларускі — ля варотаў" — пад такім красамоўным загалоўкам варшаўская ***Gazeta Wyborcza*** зьмясьціла вялікі аналітычны артыкул, прысьвечаны прыезду Б.Ельцына ў Менск.

*"Амаль адначасова зь першымі праваламі на фронце чачэнскім расейскія палітыкі ізноў павярнуліся да Беларусі,* — піша газэта. — *Ажываюць лёзунгі гаспадарчай інтэграцыі, сумеснай аховы заходніх межаў, аб'яднанага паседжаньня расейскай Думы і беларускага Вярхоўнага Савету. Ці ня хоча Масква такім чынам давесьці сьвету і сваім суседзям (а можа, найперш самой сабе), што працэсы аб'яднаньня ў расейскім выкананьні могуць адбывацца без праліцьця крыві?"*

*"Але злавеснае слова* ***фронт*** *ня ўзьнікла выпадкова",* — падкрэсьлівае аўтар матар'ялу, нагадваючы, што паняцьце беларускага фронту сфармуляваў старшыня камісіі Думы К.Затулін, а таму яно адлюстроўвае афіцыйную расейскую палітыку. *"Пра інтэграцыю палітычную расейцы пакуль што стараюцца галасна не гаварыць, але праз сфэру эканомікі яны пракладаюць шлях да такой залежнасьці, якая была ў савецкія часы, калі кожная рэспубліка СССР таксама мела розныя атрыбуты суверэннасьці: Канстытуцыю, парлямант і ўрад, а Беларусь і Украіна нават былі сябрамі ААН".*

Аналягічнай пазыцыі прытрымліваецца газэта ***Rzeczpospolita:*** *"Візыт Ельцына ў Менск зьяўляецца кульмінацыйным пунктам дыпляматычных намаганьняў Расеі, якія аглядальнікі называюць "наступам на беларускім фронце".* Аўтар адзначае, што пагадненьне Аб сумесных намаганьнях па ахове дзяржаўнай мяжы Беларусі *"мае вельмі загадкавую назву"* і таму, хоць на прэс-канфэрэнцыі журналістаў запэўнілі, што *"сумесныя намаганьні" ня будуць тычыцца зьнешняй мяжы Беларусі з Польшчай"*, гэты дакумант выклікае падазраньні.

*"Атмасфэра, у якой праходзіў візыт Ельцына, сьведчыць, што беларускае грамадзтва ставіцца да інтэграцыі з Расеяй са значна меншым энтузіязмам, як пару месяцаў таму,* — піша далей газэта. — *Канфлікт у Чачні выразна паслабіў на Беларусі прарасейскія настроі; практычна ва ўсіх вялікую занепакоенасьць выклікае вайсковае супрацоўніцтва"...* ***Rzeczpospolita*** паведамляе, што жыхары Менска сустракалі расейскага прэзыдэнта на пляцы Перамогі з плякатамі "Ельцын — дадому" і "Рукі прэч ад Беларусі і Чачні", а *"энтузіязм цяжка было заўважыць нават сярод старанна адабранай групы, якая таксама знаходзілася каля помніка".*

***Życie Warszawy*** таксама згадвае, што *"на шляху прэзыдэнта Расеі беларуская апазыцыя наладзіла дэманстрацыю. Яе ўдзельнікі трымалі беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі з чорнымі стужкамі і транспаранты "Расейскае войска — ідзі дамоў!" і "Ельцын — прэч!"*. Польская сталічная газэта цытуе выказваньне Ельцына, якое прагучала на беларускім тэлебачаньні падчас прамога ўключэньня, але пасьля было старанна выразана ў выпусках навінаў: *"Эўропа інтэгруецца, бо гэта менш каштуе і на гэта патрабуецца менш розуму".*

Польская прэса таксама зьвяртае ўвагу на тое, што афіцыйныя асобы галоўны акцэнт робяць на эканамічным супрацоўніцтве, хоць, як лічыць агенцтва ***ПАП***, *"ёсьць усе падставы сьцьвярджаць, што галоўнай тэмаю перамоваў былі пытаньні вайсковыя".* На думку аглядальнікаў, зроблены першы крок да *"рэальнай арганізацыі аховы адзінай мяжы СНД з камандным пунктам у Маскве". "Заслугоўвае ўвагі і той факт, што Ельцын прывёз у Менск міністра абароны Паўла Грачова і галоўнакамандуючага памежнымі войскамі Андрэя Нікалаева,* — адзначае ПАП. — *Паміж расейскімі і беларускімі вайскоўцамі вяліся гаворкі, пра зьмест якіх нічога не паведамлялася. Як не паведамлялася таксама, для чаго ў праграме візыту быў запляnaваны такі дзіўны і нетыповы пункт — наведаньне завода".*

Вядома, што МАЗ, падобна, адзінае прадпрыемства ў СНД, якое выпускае цягачы для ракет сярэдняга радыюсу дзеяньня, і што Лукашэнка заявіў у гутарцы з карэспандэнтамі: *"Гэта ня толькі беларускае, але і расейскае прадпрыемства",* — хоць ніякіх фармальных падставаў для гэтага няма.

Агенцтва ПАП таксама адзначае: Беларусь больш зацікаўленая ў эканамічным супрацоўніцтве, а Расея — у ваенным, і ёсьць зьвесткі, што ў часе гутарак тэт-а-тэт прэзыдэнтаў і міністраў абароны абмяркоўваліся пляны паступовага стварэньня сумесных узброеных сілаў і вытворчасьці ваеннай прадукцыі. Магчыма, гэта і меў на ўвазе Ельцын, калі казаў журналістам, што *"у гутарках сам-насам з прэзыдэнтам Беларусі прыйшлі да згоды па многіх пытаньнях, не ахопленых падпісанымі пагадненьнямі".*

*"Ельцыну настолькі спадабалася ў Менску, што ён нават паабяцаў беларусам 150 млрд. рублёў доўгатэрміновага крэдыту,* — іранізуе *Gazeta Wyborcza*, падводзячы вынікі візыту. — *Барыс Ельцын пакідаў Беларусь у шампанскім настроі. "Мы добра пад'елі з Аляксандрам Лукашэнкам",* — *паведаміў ён на сустрэчы зь інтэлігенцыяй у Беларускай Акадэміі Навук".* Разам з тым, адзначае газэта, *"зусім ня так цёпла будуць згадваць пра візыт жыхары Менска".*

**Усевалад РАГОЙША**

## Разьведка боем

**На мінулым тыдні аўтаматныя чэргі разбудзілі многіх жыхароў Слоніма, якія жывуць паблізу артылерыйскіх складаў.**

Сьведка гэтай начной страляніны паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ, што "апоўначы 20 лютага вартавы салдат заўважыў незнаёмца, які рухаўся ў ягоны бок. Салдат спачатку зрабіў папераджальны стрэл у паветра, а потым адкрыў агонь на паражэньне. На дапамогу падасьпеў начальнік варты старшы лейтэнант Гліньнікаў, які выпусьціў у бок парушальніка амаль два аўтаматныя магазіны. У гэты ж самы час трое невядомых спрабавалі патрапіць на тэрыторыю другога паста, дзе знаходзяцца сховішчы снарадаў для ўстаноўкі "Град". Аднак і там іх сустрэлі аўтаматныя чэргі. Страляніна доўжылася каля 20 хвілінаў.

Са слоў сьведкі, адзін з парушальнікаў меў бараду. Напярэдадні вайскоўцы бачылі гэтага невядомага мужчыну, калі ён фатаграфаваў склады боепрыпасаў.

Па факце начнога інцыдэнту вядзецца сьледзтва. Ваенны пракурор слонімскай брыгады заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ, што "хутчэй за ўсё гэта была рэкагнасцыроўка подступаў да сховішчаў боепрыпасаў". Акрамя таго, як лічыць пракурор, невядомыя, магчыма, хацелі праверыць пільнасьць вартавых.

**Анатоль МІРСКІ**

## Злодзеі хутка пачнуць красьці ракеты

**Непадалёк ад вёскі Іконкі Чашніцкага раёну з ракетнай устаноўкі, якая знаходзілася на баявым дзяжурстве, былі скрадзеныя 200 мэтраў сілавога меднага кабэля.**

Цікава, што вайскоўцы не адразу заўважылі прапажу. Толькі на наступны дзень камандзер дывізіёну заявіў пра здарэньне ў міліцыю. Супрацоўнікам Чашніцкага РАУС удалося даволі хутка знайсьці зламысьнікаў. Як высьветлілася, кабэль скраў старшы лейтэнант А.Сімарскі, які раней служыў у гэтай часьці і звольніўся ў студзені гэтага года ў сувязі зь пераездам на сталае месца жыхарства ў Расею. А дапамагалі сп.Сімарскаму ажыцьцявіць "экспрапрыяцыю" двое мясцовых жыхароў.

**СІМ**

## Уладу падабралі на вакзале

**На чыгуначным вакзале ў Баранавічах міліцыянты падабралі непрытомнага старшыню Вялікалукомскага сельсавету Мікалая Марозава.**

Небарака так напіўся, што ня меў сілаў дабрацца дахаты ў в.Русіно Баранавіцкага раёну. Давялося начаваць у аддзяленьні міліцыі, дзе на старшыню склалі пратакол за "зьяўленьне ў п'яным выглядзе ў грамадзкім месцы".

На наступны дзень кіраўнік савецкай улады на працу не прыйшоў. У сельсавет патэлефанавала ягоная жонка і паведаміла, што таварыш Марозаў захварэў, у яго высокая тэмпэратура.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Пасольства весялілася ўсю ноч

**У мінулую суботу нямецкае пасольства ў Менску ладзіла карнавал, які доўжыўся ўсю ноч.**

Паводле нямецкіх традыцыяў, у гэтыя дні адзначаецца масьленіца. Апрача замежных дыпляматаў, на карнавале весяліліся таксама заходнія бізнэсмэны ды многа прыгожых дзяўчат. Былі накрытыя сталы, іграў джаз-бэнд. Першы прыз за найлепшы карнавальны касьцюм атрымала супрацоўніца Брытанскай амбасады.

**На здымку: нямецкі пасол Г.Альбрэхт упадабаў Бабу-Ягу.**



## Зьліквідавалі падпольны гарэлачны завод

**Як высьветлілася, у Полацку быў не адзін, а два віна-гарэлачныя заводы. Пра гэта ня ведаў нават старшыня мясцовага гарвыканкаму.**

Падпольны "заводзік" функцыяваў на кватэры вынаходлівага палачаніна, які нідзе не працаваў. У хатніх умовах, выкарыстоўваючы замежны сьпірт, ён наладзіў вытворчасьць гарэлкі "Руская". Міліцыя канфіскавала 90 літраў сьпірту, некалькі тысяч фірмовых коркаў, закатачную машынку і сотні пустых пляшак.

**Васіль КРОКВА**

## У Менску затрыманыя кіраўнікі фірмы "Мост"

**Іх узялі акурат у той момант, калі яны спрабавалі прадаць партыю гарэлкі "Сталічная".**

Рэч у тым, што яны гандлявалі фальшывым прадуктам. У некалькіх кілямэтрах ад Менска ў драўляным доме сьледзтва знайшло 2 тысячы пляшак "Сталічнай" і "Маскоўскай", прылады для разьліву і закаркоўваньня гарэлкі, а таксама шмат пустых пляшак, набытых у прыёмных пунктах шклатары. Тэхналёгія прыгатаваньня фальшывай гарэлкі была вельмі простая — камэрсанты зьмешвалі этылавы сьпірт з вадой.

**СІМ**

## Грошы ня пахнуць

**Кобрыньскаму камэрсанту М., што жыве побач з гарадзкім рынкам, надакучылі няпрошаныя госьці, якія часьцяком наведваюцца ў ягоны пад'езд зь недалёкага піўбару.**

Камэрсант у прыватным парадку наняў прыбіральшчыцу, якая рэгулярна мые ў пад'ездзе за 20 даляраў у месяц. На такі заробак жанчына пакуль ня скардзіцца.

**Мірон ГАМОН**

## Жыцьцё "кусаецца"...

**Жыхарка Маладэчна выставіла судовыя прэтэнзіі да гаспадароў сабакі, які пакусаў яе.**

Суд задаволіў яе скаргу. Пацярпелая атрымае 200 тыс. рублёў за маральны ўрон і яшчэ 100 тыс. — за матэр'яльныя страты. Летась ад сабак пацярпела больш за сто маладэчанцаў.

***БелаПАН***

**На мінулым тыдні газэта СВАБОДА дэманстравала свой рэклямны стэнд на міжнароднай выставе "Усё для лэдзі", якая адбывалася ў менскім Палацы мастацтваў.**

**Асаблівую цікавасьць публікі выклікалі фотаздымкі СВАБОДЫ. Гэтым разам у кадр нашага фотарэпартэра трапілі дзьве тытуляваныя дзяўчыны — лэдзі года Натальля Пракопава і супэрмадэль Беларусі Алена Бушуева *(на здымку).***








Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 27.2.94. Надрукавана ў Аршанскай друкарні. © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 60 000
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12